Гродна
№ 19 (430),
18 кастрычніка 2015

# Слова Жыцця

www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# ПАКЛІКАННЕ І МІСІЯ СЯМ'І Ў КАСЦЁЛЕ І СУЧАСНЫМ СВЕЦЕ



Сінадальныя Айцы з усіх рэгіёнаў свету вядуць разважанні і дыскусіі пра пакліканне і місію сям'і ў Касцёле і ў грамадстве

**4–25 кастрычніка ў Ватыкане праходзіць пасяджэнне Сінода Біскупаў на тэму сям'і.**

**На форуме, у якім прымаюць удзел 270 Айцоў Сінода, эксперты, аўдытары, дэлегаты іншых хрысціянскіх веравызнанняў і 18 сужэнскіх пар, разглядаюцца выклікі і праблемы, з якімі спатыкаецца сучасная сям'я. Касцёл у Беларусі на форуме прадстаўляе старшыня беларускага епіскапата Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.**

Пачаткам Сінода Біскупаў на тэму "Пакліканне і місія сям'і ў Касцёле і сучасным свеце" стала св. Імша ў базіліцы св. Пятра ў Ватыкане, якую ўзначаліў папа Францішак. У гаміліі Святы Айцец падкрэсліў, што ў сучасным цяжкім сацыяльным і сямейным кантэксце Касцёл павінен перажываць сваю місію адносна сям'і ў вернасці, праўдзе і любові. Вернасць, па словах Папы, павінна праяўляцца ў абароне адзінасці і непарыўнасці сужэнства, а таксама ў абароне найбольш каштоўнага Божага дару, якім ёсць жыццё, у падтрымцы шматдзетных сем'яў і абароне вернай любові.

Пантыфік адзначыў, што праўда павінна не паддавацца ўплывам моды і часовых меркаванняў, а таксама бараніць чалавека ад трансфармацыі плоднай любові ў эгаізм. Таксама Папа звярнуў увагу на тое, што любоў павінна спадарожнічаць Касцёлу ў выконванні яго місіі і што Касцёл павінен заставацца любячай маці, якая лечыць раны алеем міласэрнасці.

• праця на с. 5

## Календар падзей

***18–24 кастрычніка*** *тыдзень малітвы ў інтэнцыі Місій.*

***18 кастрычніка*** *ўспамін св. евангеліста Лукі, заступніка службы здароўя.*

***28 кастрычніка*** *свята св. Сымона і Юды Тадэвуша. Дзень імянін кс. аб-па Тадэвуша Кандрусевіча, Мітрапаліта.*

***1 лістапада*** *ўрачыстасць Усіх Святых.*

***1–8 лістапада*** *можна атрымаць поўны адпуст.*

## Запрашаем!

***Праграмы каталіцкай рэдакцыі:***

***"Голас Евангелля"*** *Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.* ***Кожную нядзелю ў 8.00*** *запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.*

***Гродна 103,0 FM***
***Свіслач 105,9 FM***

***Рэдакцыя газеты "Слова Жыцця" шукае спецыяліста з веданнем польскай і беларускай моў на пасаду перакладчыка. Звяртацца па тэлефоне: (8029) 637-07-17.***

# Хэлоўін: пад маскай жартоўнага шоу



Мільёны людзей па ўсім свеце штогод святкуюць Хэлоўін – свята напярэдадні ўрачыстасці Усіх Святых. Удзельнікі карнавалу апранаюцца ў касцюмы ўсялякай нечысці і здзяйсняюць магічныя рытуалы. Гулянне асабліва папулярнае сярод дзяцей і моладзі. Што хаваецца за жахлівай гарбузнай усмешкай, і чым святкаванне Хэлоўіна небяспечна для хрысціяніна?

• праця на с. 4

## Інтэрнэт-апытанне www.grodnensis.by

*Колькі існуе частак Ружанца?*

- *адна*
- *дзве*
- *тры*
- *чатыры*
- *цяжка сказаць*




**"«Сямейны дух» – канстытуцыя для Касцёла: так хрысціянства павінны бачыць і такім яно павінна быць" – папа Францішак**




### XXIX НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ

**Мк 10, 35–45**

Падышлі да Езуса Якуб і Ян, сыны Забэдэя, і сказалі: “Настаўнік, мы хочам, каб Ты зрабіў нам тое, пра што Цябе папросім”. Ён адказаў ім: “Што хочаце, каб Я зрабіў вам?” Яны сказалі Яму: “Дай нам сесці аднаму праваруч, а другому леваруч Цябе ў славе Тваёй”. Але Езус сказаў ім: “Не ведаеце, аб чым просіце. Ці можаце піць келіх, які Я п’ю, і прыняць хрост, якім Я ахрышчаны?” Яны адказалі: “Можам”. А Езус сказаў ім: “Келіх, які Я п’ю, будзеце піць, і хростам, якім Я хрышчуся, будзеце ахрышчаны, але даць сесці праваруч і леваруч Мяне – не ад Мяне залежыць, а каму прыгатавана”. І, пачуўшы, дзесяць іншых вучняў пачалі абурацца на Якуба і Яна. А Езус, паклікаўшы іх, сказаў ім: “Вы ведаеце, што тыя, хто лічацца князямі народаў, пануюць над імі, і вяльможы іх уладараць над імі. Але не так няхай будзе між вамі: хто хоча быць найбольшым сярод вас, няхай будзе вам слугою; і хто хоча сярод вас быць першым, няхай будзе нявольнікам усіх”.

Бо і Сын Чалавечы не на тое прыйшоў, каб Яму служылі, але каб служыць і аддаць жыццё сваё для адкуплення многіх.

## ДАВАЙЦЕ БУДАВАЦЬ СУПОЛЬНАСЦЬ ЕВАНГЕЛЛЯ

Чаканне, што свет са сваімі часовымі ўладамі будзе прыязны да Хрыста і Евангелля, – гэта такое ж непаразуменне, як чаканне таго, што людзі, якія будуць старацца жыць паводле евангелічных правіл, будуць цешыць сябе гарантыяй жыццёвага поспеху. Як тут не ўпасці ў песімізм? Па-першае, прыняць як штосьці натуральнае ўнутраныя супярэчнасці паміж правіламі, якія навязвае свет, і правіламі, прапанаванымі Евангеллем. Па-другое, з усіх сіл старацца, каб сама супольнасць вернікаў абапіралася на абавязак службы, а калі трэба, і ахвяры. Тады перажыванне ўнутраных супярэчнасцей не будзе такім надакучлівым.

### XXX НЯДЗЕЛЯ ЗВЫЧАЙНАЯ
### ГАДАВІНА АСВЯЧЭННЯ ЎЛАСНАГА КАСЦЁЛА

**Ян 4, 19–24**

Жанчына кажа Яму: “Пане, я бачу, што Ты прарок. Бацькі нашыя пакланяліся на гэтай гары, а вы кажаце, што месца, дзе трэба пакланяцца, у Ерузалеме”.

Езус кажа ёй: “Павер мне, жанчына, што надыходзіць час, калі ні на гэтай гары, ні ў Ерузалеме не будзеце пакланяцца Айцу. Вы пакланяецеся таму, чаго не ведаеце. Мы пакланяемся таму, што ведаем, бо збаўленне – ад юдэяў. Але надыходзіць час, і цяпер ужо ёсць, калі праўдзівыя вызнаўцы будуць пакланяцца Айцу ў Духу і праўдзе. І такіх вызнаўцаў шукае сабе Айцец. Бог ёсць Духам, і тыя, хто пакланяецца Яму, павінны пакланяцца ў Духу і праўдзе”.

## ДОМ БОЖЫ – ДОМ ЯГО ДЗЯЦЕЙ

Гэта фрагмент аднаго з найважнейшых дыялогаў Езуса, запісаных св. Янам у Евангеллі: Пан Езус сустракае самаранку і тлумачыць ёй таямніцу свайго Валадарства. З-за свайго грэшнага жыцця (у яе было некалькі мужоў...) яна, хутчэй, не магла быць прыкладам для іншых. Яна ўсведамляла свае грахі. Аднак, гэта менавіта з ёй Езус хацеў паразмаўляць у адсутнасці Апосталаў. Мы ведаем, якія былі вынікі гэтай сустрэчы. Самаранка прызнала ў Езусе Месію. Дзякуючы ёй таксама і яе суседзі пачулі аб Езусе, змаглі Яго сустрэць і пачуць Добрую Навіну.

Пра што казаў ёй Пан Езус? Ён фактычна скончыў яўрэйскі і самаранскі сепаратызм, перажываемую імі выключнасць, якая была прычынай глыбокіх непаразуменняў і падзелаў. Па сённяшні дзень пачуццё таго, што ты лепшы за кагосьці, вылучаны сярод іншых, з’яўляецца балючай праблемай многіх супольнасцей. Адзін святы паўсюдны каталіцкі Касцёл дае ўсім людзям і народам шанс, пра які казаў Пан Езус каля студні Якуба: мы аддаём пашану Богу на тых жа правах, карыстаючыся тымі ж прывілеямі, якія былі заслужаны для ўсіх на крыжы.

Прыгожым вобразам гэтага кожную нядзелю з’яўляюцца нашы касцёлы: у іх мы ўсе адчуваем сябе дзецьмі аднаго Айца.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

# Якой павінна быць сям’я

**СЛОВА РЭДАКТАРА**

*Кс. Павел Салабуда*

На пытанне, якой павінна быць сённяшняя сям’я, усё цяжэй знайсці адказ. Давайце паспрабуем задумацца, чаму так? Чаму на адно з фундаментальных пытанняў нашага жыцця ў сучасных рэаліях цяжка правільна адказаць? Хтосьці думае, што сям’я перш за ўсё павінна быць любячай, але ў сённяшнім свеце варта спытацца, што гэта за любоў і паміж кім. Альбо, можа, хтосьці скажа, што сям’я здаўна была і павінна быць шчаслівай, але як мы сёння разумеем шчасце, бо сям’я сёння – гэта не толькі родны дом, у які хочацца вяртацца, цяпер такой фармулёўкі ўжо замала. А хтосьці дадасць яшчэ шмат прыметнікаў, хаця б: клапатлівая, апякунчая, талерантная, вытрываная і, перш за ўсё, сямейная.

Чаму сёння так складана знайсці адказ на, здавалася б, вельмі простае жыццёвае пытанне? Адказ я пачуў у аднаго з амерыканскіх кардыналаў, які прысутнічае на Сінодзе Біскупаў. Ён сказаў пра сучасны свет так: “Апаноўваючы прыроду з мэтай развіцця, мы, людзі, атруцілі нашы акіяны і паветра, якім дыхаем. Мы атруцілі кантрацэпцыяй чалавечы арганізм. Мы страцілі разуменне сексуальнасці. У імя самарэалізацыі мы заняліся будаўніцтвам новай Вавілонскай вежы тыраніі, якая падкармлівае нашы жаданні, але прымушае да смерці галадаць нашу душу”. Менавіта такім становіцца наш свет, у якім жывём мы, жывуць нашыя сем’і.

Я не сумняваюся, што правільны адказ на гэтае пытанне дасць нам чарговы Сінод у Рыме на тэму сям’і. З вуснаў папы Францішка мы пачуем, якой сёння павінна быць сям’я. Пачуем таксама, што Касцёл можа зрабіць для кожнай сям’і, якім чынам ён будзе далей ёй спадарожнічаць.

Некалькі дзён таму я быў сведкам казання аднаго ксяндза на тэму сям’і. Цікава тое, што адрасатамі былі дзеці. Гамілія не заняла шмат часу, але мы пачулі мноства простых адказаў ад дзяцей. Святар спытаў у маленькіх вернікаў, што такое сям’я і як яны яе разумеюць. Мы пачулі адназначны адказ, што сям’я – гэта тата, мама і дзіця. Затым святар спытаўся, колькі дзяцей павінна быць у сям’і, на што прагучалі розныя адказы. Адзін, два, тры... Кожнае дзіця казала пра сваю сям’ю, пра тое, як ёсць у іх родным доме. Пазней, на знак супакою, святар прапанаваў дзецям падысці да сваіх бацькоў і перадаць ім знак супакою. Усе заўважылі атмасферу радасці і шчасця сярод блізкіх адзін аднаму людзей. Як жа важна сёння, каб нашы сем’і былі здаровымі, прытым як духоўна, маральна, так і фізічна, і псіхічна. Няхай “аповесць” сямейнага жыцця будзе вернай Евангеллю па прыкладзе Святой Сям’і з Назарэта, па прыкладзе тых сем’яў, якія жывуць згодна з Евангеллем.

**Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч у Рыме так сказаў: “Я хацеў бы выказаць з Сінода з пераканаННЕМ, што дзякуючы малітве і нашым дзеянням сучасная сям’я пераможа розныя крызісы і будзе надзеяй для ўсяго свету”. Варта маліцца за нашыя сем’і, каб яны былі моцныя Богам і заставаліся надзеяй для ўсяго свету. Такія сем’і неабходны сучаснаму грамадству. І варта дадаць, што сёння менавіта такіх сем’яў вельмі шмат.**

# ДЭКАНАТ Радунь
# Забалаць

*Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі*


Знешні выгляд святыні


Галоўны алтар

У пісьмовых крыніцах вёска вядома з канца XIV ст. У канцы XV ст. знаходзілася ва ўласнасці Дашкоўскай у Лідскім павеце Віленскага ваяводства ВКЛ. Потым належала Глінскім, з 1508 г. – Войцеху Нарбутовічу, які ў 1536 г. заснаваў тут мястэчка. У пачатку XVII ст. – уласнасць Сапегаў, пазней Палубенскіх, Габаяў, у 1690 г. – Нарбутаў. У XIX ст. – графаў Тышкевічаў.

Касцёл пад тытулам Найсвяцейшай Тройцы быў заснаваны тут ў 1601 г. па фундацыі тагачаснага ўладальніка Забалаці земскага суддзі Войцеха Нарбута. Першы храм пабудавалі з дрэва ў цэнтры вёскі. Сын фундатара Мікалай Нарбут упасажыў святыню ў 1623 г. з абавязкам утрымліваць бакалаўра для навучання дзяцей у школе пры касцёле. Апошні драўляны касцёл узвёў Мікалай Пятроў Нарбут па ўласнай фундацыі ад 16 верасня 1750 г. Інтэр’ер святыні тады ўпрыгожвалі 4 алтары. Галоўны, кансэкраваны віленскім біскупам суфраганам Антоніем Жаўкоўскім – алтар Найсвяцейшай Тройцы з тытульным абразом у цэнтры ў акружэнні абразоў св. арханёлаў Міхала і Габрыэля, завяршаў кампазіцыю абраз св. Ганны. У прэзбітэрыі стаялі алтары св. Вінцэнта і Наведзінаў НПМ, і яшчэ адзін алтар – св. Антонія з абразом св. Яна Непамука ў другім ярусе – быў, відаць, прысценным.

Праз два стагоддзі парафіяне вырашылі пабудаваць “Богу Усемагутнаму”, як напісана на мемарыяльнай пліце над уваходам, новы, ужо каменны касцёл. У 1803 г. на ахвяраваныя сродкі мясцовага землеўладальніка, маршалка літоўскага графа Людвіка Тышкевіча і ягонай жонкі Канстанцыі з роду князёў Панятоўскіх, распачалося будаўніцтва святыні ў стылі класіцызм. Будавалі касцёл 10 гадоў, а ў 1812 г. святыню пад гістарычным тытулам асвяціў інфляндскі канонік кс. Мацей Мінейка.

Троіцкі касцёл уяўляе сабою прамавугольную ў плане зальную аднавежавую святыню з арыентаванай на захад прамавугольнай апсідай, дзе змешчаны дзве сакрыстыі. Аб’ёмы малітоўнай залы і паніжанай апсіды накрыты двухсхільнымі дахамі (у міжваенныя гады чарапіца заменена на бляху). Галоўны фасад пазначаны магутнай чацверыковай трох’ярўснай вежай-званіцай, завершанай у пачатку XX ст. васьмікалоннай глухай у стылі мадэрн, тут знаходзяцца тры званы. У гэты ж час аркавыя вокны малітоўнай залы былі заменены на неагатычныя спічастыя.

Інтэр’ер, перакрыты плоскай падшыўной столлю (у сакрыстыях крыжастыя скляпенні), упрыгожваюць тры ілюзорныя алтары (былі намаляваны ў 1880 г., потым перамаляваныя): галоўны алтар (ілюзорны жывапіс застаўлены ў 2000-я гг. драўляным алтаром) з вялікім абразом Найсвяцейшай Тройцы і два бакавыя: левы – Маці Божай Вастрабрамскай і правы – св. Ганны. У XIX ст. у галоўным алтары размяшчаўся абраз Езуса Убічаванага (пазней перанесены ў левы алтар, а ў галоўным усталявалі абраз Маці Божай Вастрабрамскай у пазалочанай шаце і Укрыжаванне, ахвяраванае касцёлу тагачасным пробашчам кс. Заблоцкім у 1880 г.), у левым бакавым – Маці Божай Шкаплернай у шаце з каронамі і аксамітам, у правым, як і цяпер, – абраз св. Ганны, а тытульны алтар Найсвяцейшай Тройцы быў перанясным, ён і па сённяшні дзень захоўваецца ў касцёле. Алтарная частка аддзелена ад малітоўнай залы мураванымі кулісамі, пры якіх ўсталяваны бакавыя алтары і амбон з хрысцільняй (асабліва цікава аднолькавае выкананне апошніх). Падчас рамонту касцёла ў 1939 г. былі размаляваны сцены і столь. Над уваходам зроблены арганныя хоры на чатырох драўляных калонах, калісьці там стаяў арган на 10 галасоў.

Касцёльны ўчастак у 1861 г. коштам і намаганнямі кс. Шыманта быў абнесены невысокай бутавай агароджай, якая ў 1884 г. была заменена на новую з трохпралётнай уваходнай брамай у неакласічным стылі, цаглянай і атынкаванай. У парафіі тады дзейнічаў яшчэ і шпіталь.

Да XIX ст. забалацкая парафія ўваходзіла ў Лідскі дэканат, пасля ў Радунскі. У той час да парафіі прыпісваліся капліцы ў Варонічах і ў самой Забалаці, а дакладней прыкладна за тры кіламетры ад касцёла, ва ўрочышчы Шамбароўшчына (сёння в. Дварчаны). У час улады Польшчы забалацкая парафія ўвайшла ў новаўтвораны Васілішскі дэканат. Колькасць вернікаў тады перавышала 6500.

Троіцкі касцёл дзейнічаў увесь час, але пры савецкай уладзе ў ім не было пастаяннага пробашча. У 1970-я гг. святыня атрымала статус помніка архітэктуры, але з капліц ніводная не захавалася, а плябанію перабудавалі ў бальніцу, напрыканцы 1990-х гг. зруйнаваны будынак вярнулі парафіянам, але як непадатлівы рэстаўрацыі ён быў разабраны ў 2003 г. З утварэннем Гродзенскай дыяцэзіі забалацкая парафія зноў перайшла ў склад Радунскага дэканата.

# 10 прычын маліцца Ружанцам

***Для чалавека вельмі важнай з'яўляецца мэта і матывацыя для дасягнення гэтай мэты. Наша мэта вельмі выразная – дасягнуць Неба. Адным з найбольш эфектыўных сродкаў дасягнення вечнага выратавання з'яўляецца малітва. Малітву можна назваць ключом да выратавання. Малітва для жыцця нашай душы – тое ж, што кісларод для нашых лёгкіх. Вось чаму святы Аўгустын сцвярджаў: "Хто моліцца добра, той жыве добра. Хто жыве добра, памірае добра. А хто памірае добра, у таго ўсё добра". Таксама мы маем магутную заступніцу перад тронам Госпада, якая дапамагае нам дасягнуць Неба і матывуе нас засяродзіць нашыя намаганні на Богу – гэта, вядома, Найсвяцейшая Панна Марыя.***

## Любімая малітва Марыі

Ёсць малітва, якая напаўняе сэрца Багародзіцы радасцю. Гэта "Вітай, Марыя" і, асабліва, малітва Ружанца. Кожны раз, калі мы звяртаемся да Марыі са шчырым сэрцам, Яе сэрца радуецца. Таму прапануем вашай увазе 10 пунктаў, якія матывуюць нас маліцца святым Ружанцам.

### 1 Божая Маці Фацімская

Найсвяцейшая Панна Марыя шэсць разоў з'яўлялася тром маленькім пастушкам у Фаціме (Партугалія). І кожны раз Маці Божая казала: "Маліцеся Ружанцам".

### 2 Яе тытул

Напрыканцы сваіх аб'яўленняў Божая Маці назвала сябе "Каралевай Ружанца". Таму, калі Яна шэсць разоў настойвала на неабходнасці маліцца Ружанцам і сама называла сябе "Каралевай Ружанца", здаровы сэнс падказвае нам, што Яна сапраўды хоча, каб мы так маліліся!

### 3 Папа Ян Павел II

Гэты вялікі святы сучаснасці і сапраўдны духоўны гігант настойліва рэкамендаваў усім маліцца святым Ружанцам. У сваім пасланні "Ружанец Панны Марыі" намеснік Хрыста настойваў на тым, каб мы чыталі гэтую малітву. У пачатку свайго пантыфікату ён сам сказаў, што Ружанец з'яўляецца яго самай любімай малітвай.

### 4 Дзеля сям'і

У тым жа дакуменце св. Ян Павел II настойваў на тым, каб мы маліліся Ружанцам за сям'ю, якая знаходзіцца пад пагрозай і ва ўмовах глыбокага крызісу. З ростам колькасці разводаў, легалізацыяй аднаполых шлюбаў, з той колькасцю дзяцей, якія засталіся без сямейнага цяпла, сёння мы больш чым калі павінны маліцца Ружанцам. Святы Айцец цытуе Слугу Божага а. Патрыка Пэйтана: "Сям'я, якая моліцца разам, застаецца разам".

### 5 Дзеля супакою ў свеце

Гэты дакумент св. Яна Паўла II быў апублікаваны неўзабаве пасля тэракту з хмарачосамі ў Нью-Ёрку. Такім чынам, яшчэ адна інтэнцыя для малітвы Ружанца сёння – гэта супакой ва ўсім свеце. Перад абліччам пагрозы ядзернай зброі і росту агульнай напружанасці паміж народамі, Ружанец можа быць нашым шчытом і абаронай. У канцы Першай сусветнай вайны Найсвяцейшая Багародзіца ў Фаціме ясна сказала, што вайна наступіла ў выніку граху, і калі людзі не перастануць грашыць, то выбухне сусветная вайна яшчэ страшнейшая за гэтую. Праз дваццаць гадоў – Другая сусветная вайна. Яго Эксцэленцыя кс. абп Фултан Джон Шын казаў, што сусветныя войны – гэта вынік мноства асобных войнаў у сэрцах грэшнікаў, якія распаўсюдзіліся на паселішчы, гарады, краіны і кантыненты. Грэх нараджае вайну, малітва нараджае святло ў сэрцах, розумах, душах і гармонію паміж народамі.

### 6 Дзеля бяспекі нашых дзяцей

Яшчэ ніколі грамадства не было такім небяспечным у адносінах да нашых дзяцей і падлеткаў. Вялікае значэнне мае чысціня. Сучасныя СМІ, інтэрнэт, разнастайная рэклама, сучасныя фільмы і тэлевізійныя праграмы люта перашкаджаюць цноце чысціні. Прама скажам, часам складваецца ўражанне, што мы жывём у "грамадстве парнаграфіі". Адданасць Маці Божай і малітве Ружанца можа служыць шчытом супраць гэтага націску. Карацей кажучы, мы павінны атуліць нашых дзяцей у чыстым і бязгрэшным сэрцы Марыі; Яна – аазіс, прытулак, бяспечны каўчэг і наша абарона. Калі вы, як Ной, яго сям'я і жывёлы, шукаеце абароны ад патопу ў каўчэзе, каўчэг Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Багародзіцы безумоўна стане бяспечным прытулкам.

### 7 Каб "упарадкаваць наш беспарадак"

У выніку першароднага граху, які ўсе мы атрымліваем у спадчыну, наша жыццё адзначана бязладнасцю. Наша мысленне, наша воля, эмацыйны стан, наша душа, намеры, наша сямейнае і сацыяльнае жыццё маюць пэўныя расстройствы. Святы Ігнацый Лаёла казаў, што мы робім духоўныя практыкаванні для таго, каб "навесці парадак" у нашым жыцці. Грэх выклікае фрустрацыю, малітва прыносіць душэўны парадак. Малітва да Найсвяцейшай Багародзіцы насычае нашу душу і напаўняе яе Духам Святым, а Дух Святы – Бог парадку. Праз малітву Ружанца Маці Божая можа дапамагчы нам перамагчы неўпарадкаванасці нашага жыцця.

### 8 Для ўнутранага супакою душы і розуму

Яшчэ адным выдатным плёнам ружанцовай малітвы з'яўляецца супакой розуму, сэрца і душы. Усе мы прагнем супакою, а Найсвяцейшая Багародзіца з'яўляецца, між іншым, "Каралевай супакою" і можа выпрасіць для нас той супакой, якога так прагнуць нашыя сэрцы.

### 9 Гэта біблейская малітва

Святы папа Ян Павел II сказаў, што Ружанец з'яўляецца кароткім пераказам усяго Евангелля. Ён сапраўды заснаваны на Біблii, нават малітвы "Ойча наш" і "Вітай, Марыя" маюць сваю аснову ў Евангеллі. Таму, горача молячыся Ружанцам, мы лепш пазнаём Езуса і Марыю і ўлюбляемся ў Іх, а затым можам стаць Іх палымянымі апосталамі ў свеце. Папа Францішак у сваім пасланні на Вялікі пост нагадаў нам: "Усё шырэй распаўсюджваецца глабалізацыя абыякавасці, таму што ў свеце не хапае Божай любові. Гэтая любоў можа быць запалена з дапамогай любові Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Ружанца – сапраўды біблейскай малітвы".

### 10 Каб перамагчы нашыя нягоды

Давід павінен быў змагацца супраць злоснага волата Галіяфа. Стратэгічна не было ніякага спосабу, якім маленькі, неспрактыкаваны, непадрыхтаваны пастух мог перамагчы волата Галіяфа. Ён быў нібы мурашка супраць слана. Тым не менш, Біблія адкрывае нам вельмі канкрэтную ісціну: няма нічога немагчымага з Богам. Давід цалкам даверыўся Богу, Валадару Нябёс. І мы ўсе ведаем, чым гэта скончылася. Перамогай, дзякуючы ўмяшанню Бога. Сёння мы акружаны такой колькасцю "Галіяфаў", што цяжка падлічыць. Тым не менш, наша дапамога ў Богу, які стварыў неба і зямлю. Звернемся за дапамогай да Каралевы неба і зямлі і выйграем гэтую бітву. Езус з'яўляецца Каралём неба і зямлі, а Найсвяцейшая Панна Марыя – наша Каралева. Знойдзем прытулак пад Яе нябеснай мантыяй!

***Паводле рускатолік.рф***

## Слова для жыцця

**Папа Францішак**



*Мужчына пакідае бацьку свайго і маці і злучаецца са сваёй жонкай, і абодва становяцца адным целам – гэта значыць, адным жыццём, адным існаваннем. У гэтай еднасці сужэнцы перадаюць жыццё новым чалавечым істотам: становяцца бацькамі. Яны ўдзельнічаюць у творчай моцы самога Бога. Але ўвага! Бог ёсць любоў, і ў Яго тварэнні можна ўдзельнічаць тады, калі любіш, з Ім і як Ён. З гэтай мэтай – як кажа св. Павел – "любоў Божая вылілася ў сэрцы нашыя праз Духа Святога, які дадзены нам" (Рым 5, 5). І гэта таксама любоў, якая дадзена сужэнцам у сакраманце сужэнства. Гэта любоў, якая ажыўляе іх сувязь, калі яны перажываюць радасць і смутак, спакойныя і складаныя хвіліны. Гэта любоў, якая абуджае ў іх жаданне зачацця дзяцей, чакання іх, прыняцця іх, клопату пра іх развіццё і выхаванне. Гэта тая ж любоў, якую Езус аказвае дзецям: "Дазвольце дзецям прыходзіць да Мяне, не забараняйце ім; бо такім належыць Валадарства Божае" (Мк 10, 14).*

*"Анёл Панскі" са Святым Айцом, 04.10.2015*

**Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч**



*Сучасны свет забываецца, што заўсёды жывы Хрыстос – галоўны ў Касцёле. Усё часцей свет глядзіць на Касцёл як на нейкую арганізацыю, падобную на свецкую, якая займаецца развіццём і прапагандай культуры і дабрачыннасці. Але калі ў Касцёле на першым месцы не будзе Хрыста, не будзе вертыкальнага складніка, а застанецца толькі гарызантальны, то ён страціць сэнс свайго быцця ў свеце. Ён не будзе сакрамантам паўсюднага збаўлення, а стане музеем.*

*Сучасны чалавек у мітусні штодзённага жыцця кажа, што не мае часу на малітву. А ў той жа час кансэкраваныя асобы моляцца, запаўняючы гэты прабел, каб была захавана раўнавага паміж актыўнасцю і малітвай, як у прыкладзе Марыі і Марты.*

*Фрагмент гамілії, прамоўленай падчас св. Імшы ў законным доме салезіян у Мінску*




# Бог на першым месцы




### Пад матчынай апекай

Сястра Тэрэза паходзіць са Шчучынскага раёна. Была ахрышчана ў касцёле ў Новым Двары. Выхоўвалася ў сям'і католікаў. Яна малодшая з пяці дзяцей.

*"Мама ўвесь час сачыла, каб мы не забываліся пра касцёл, пра малітву. Збірала нас разам на Ружанец. Вучыла, што Бог павінен быць на першым месцы".*

Не заўсёды ўсё было дасканала. Часам дзеці забываліся маліцца.

*"Памятаю, прысніла ў сне Маці Божую, якая пагражала мне пальцам. Я разумела, з-за чаго: забывалася аб ранішняй або вяэрняй малітве. Таму не толькі зямная мама клапацілася пра маё духоўнае жыццё, але і нябесная".*

Калі ў нядзелю ў парафіі не адпраўлялася святая Імша, сям'я ехала ў Гродна, Жалудок, Васілішкі, Дубічы, Вільнюс.

*"Аднойчы ў Вільнюсе начавалі на вакзале... Бог – гэта наша сіла, казала мама. Вера – наш скарб. Памятаю, стаіць мама на каленях, моліцца і плача. Я пытаю: чаму ж ты плачаш? А яна: прашу ў Бога, каб вы былі добрымі дзецьмі".*

### Глыбокая вера ў сям'і

Узор адкрытасці на людзей дэманстраваў бацька. Быў добры, заўсёды з усмешкай.

*"Я «выцягнула» з бацькоў, здаецца, самае лепшае. Усё ж такі, як важна, калі ў сям'і ёсць добры прыклад".*

На мудрыя парады не скупілася бабуля, якая выхоўвалася пры ксяндзы. Некалі яе, асірацелую, да сябе забраў бацькаў брат, святар.

*"Напэўна, у яго і набралася гэтай Божай мудрасці. Я шмат малюся за продкаў, аб іх вечнай радасці, таму што яны перадалі нам веру. Бясконца ўдзячная ім за гэта".*

### Думкі аб пакліканні

У школе дзяўчынка моцна перажывала за сваіх сябровак, якія не верылі ў Бога. І малілася аб веры для іх.

Любіла бавіцца з меншымі дзецьмі. У старэйшых класах да яе часта забягалі малыя госці.

*"Я заўсёды адчувала, што мяне цягне да дзяцей. Хацела ў будучым з імі працаваць: быць выхавацельніцай, напрыклад. Але я слаба вучылася, таму гэтае жаданне было для мяне недасягальным".*

Пасля школы дзяўчына скончыла курсы шыцця і ўладкавалася працаваць у атэлье. Але думка "што далей" не пакідала. Яна адчувала ў сабе Божую любоў і хацела на яе адказаць.

*"У дзяцінстве ў мяне быў абразік маленькага Езуса. У такім вобразе Ён аднойчы прыйшоў да мяне ў сне і падараваў лілію. Я была ўражана і распавяля пра гэта маме. Яна растлумачыла, што лілія – гэта сімвал чысціні. Пан Езус чакае ад мяне чыстага сэрца. Гэта думка глыбока запала мне ў душу".*

А пазней дзяўчына знайшла паштоўку са словамі: "Ты – Божае жаданне, гэта твая веліч і тваё хараство". *"Гэта яшчэ больш паглыбіла маё пакліканне".*

### Бласлаўленне маці

Жаданне прысвяціць сваё жыццё Богу выспявала паступова. Дзяўчына пачала часцей сустракацца з сёстрамі. У выніку прыняла канчатковае рашэнне: стаць манаскай сястрой.

*"Прызналася ў сваім жаданні маме. Яна сказала толькі адно: гэты шлях вельмі каштоўны і важны. Галоўнае, каб я вытрымала. І паабяцала маліцца за мяне. Успомніла, што ў свой час таксама моцна хацела быць манахіняй. Але была старэйшай у сям'і, таму бацька прымусіў яе выйсці замуж".*

Нягледзячы на гэта, дачка бачыла, як маці пранесла праз усё жыццё жаданне прысвяціць сябе Богу: пры касцёле прыбірала, сцірала, прасавала, ставіла кветкі, вяла працэсію. Гэтая ахвярнасць была для яе вялікім прыкладам. Дзяўчына ведала, што мама марыла, каб адзін з яе трох братоў стаў ксяндзом. Але Божы план быў іншы.

### Праца з дзецьмі

Ва ўзросце 20 гадоў на ўрачыстаць Міхала Арханёла дзяўчыну прынялі ў манастыр у Гродне. Год пастулята, два гады навіцыята. У пілігрымцы з Варшавы ў Чанстахову яна дзякуе Маці Божай за дар паклікання. У 1995 годзе ў Гродне складвае першыя, а праз 5 гадоў 19 жніўня там жа – вечныя манаскія абяцанні. Некалькімі месяцамі раней, на беатыфікацыі сясцёр мучаніц у Рыме, Ян Павел II блаславіў яе ў групе сясцёр, якія рыхтаваліся да вечных абяцанняў.

Працавала ў Шчучыне, Гродне, Навагрудку, Капцёўцы, Галынцы, Маладзечне, Смаргоні, Івянцы. Выконвала разнастайныя абавязкі: працавала на кухні і ў агародзе, наведвала адзінокіх пажылых людзей, вяла катэхезу.

*"Служэнне ў манастыры як ружа з шыпамі. Шлях прыгожы, але са сваімі цяжкасцямі. Аднак цярпенні і праблемы нас ачышчаюць, набліжаюць да Езуса. І чым ты бліжэй да Яго, тым больш ясна ты ўсведамляеш, наколькі каштоўны гэты шлях".*

Мара працаваць з дзецьмі здзейснілася. Праз сястру Тэрэзу на катэхезе прайшлі сотні дзяцей. І ўсе яны засталіся ў яе сэрцы. Пра іх сястра ўвесь час памятае ў малітве.

**"Бог – мой Айцец, а я – Яго дачка. Сваіх дзетак заўсёды вучу: не забывайцеся, што вы – дзеці Божыя і знаходзіцеся пад апекай Нябеснага Айца. Вы павінны несці ў свет Яго супакой, мір, любоў. Вера – гэта найкаштоўнейшы скарб. Калі Бог будзе на першым месцы, Ён блаславіць ва ўсім і адорыць усімі неабходнымі ласкамі".**

***Ангеліна Пакачайла***




◆ *8 кастрычніка стала вядома імя лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры за 2015 год. На вялікую радасць і гонар для нашага народа, гэта імя беларускі Святланы Алексіевіч. Знаходзячыся ў Рыме на Сінодзе Біскупаў на тэму "Пакліканне і місія сям'і ў Касцёле і сучасным свеце", свае віншаванні пісьменніцы даслаў старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. "Упэўнены, што такая высокая міжнародная ўзнагарода стане для Вас новым натхненнем у далейшай творчай дзейнасці, дапаможа ў выхаванні новых пакаленняў літаратараў-гуманістаў і заахвоціць нашых суайчыннікаў імкнуцца да новых вышыняў у галінах навукі, тэхналогіі, культуры, мастацтва, літаратуры і іншых сферах дзейнасці чалавека", – зазначыў у лісце да першага беларускага лаўрэата Нобеля кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч.*

◆ *Прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда выкарыстаў сваё права вета адносна законапраекта пра "гендарную адпаведнасць". Палітык дзейнічаў у адпаведнасці з навуковай праўдай і вучэннем Касцёла. Законапраект дазваляў асобам, якія зрабілі гэтак званую "аперацыю па змене полу", атрымліваць новыя пасведчанні аб нараджэнні і іншыя дакументы з новым пазначэннем полу. Прэзідэнцкае вета вызваліла Польшчу ад прыняцця закону, які супярэчыць навуцы, этыцы і здароваму сэнсу.*

◆ *У канцы лістапада свет убачыць музычны альбом "Wake Up" ("Прачынайся!") з запісамі Папы Францішка. Альбом змяшчае фрагменты з прамоў і малітваў Пантыфіка, якія суправаджаюцца фонавай музыкай розных стыляў: ад грыгарыянскіх харалаў да сучаснага року. Зборнік змяшчае 11 кампазіцый. Створаны дзякуючы супрацоўніцтву Апостальскай Сталіцы і кампаніі "Believe Digital". Айцец Джуліо Неронэ, прадзюсар гэтага альбома, ужо запісваў падобныя праекты з удзелам святога Яна Паўла II і Бенедыкта XVI. Па словах айца Неронэ, ён спрабаваў зрабіць усё, каб гэты дыск адлюстроўваў "моцную асобу папы Францішка і яго пастаральны падыход дыялогу, адчыненых дзвярэй і гасціннасці". Кампазіцыі Папы хутка можна будзе пачуць на англійскай, іспанскай і партугальскай мовах.*

◆ *Разам з распачаццем Года міласэрнасці распачнецца новы праект: "Рэкалекцыі для свету", рэалізаваны з санктуарыя ў Лагеўніках кракаўскім арганізацыйным камітэтам СДМ. Кожны месяц, пачынаючы са снежня, у мясцовым санктуарыі Божай Міласэрнасці будуць арганізоўвацца евангелізацыйныя сустрэчы, якія будуць заключацца ў набліжэнні ідэі міласэрнасці. Яны будуць трансліравацца ў інтэрнэце і перакладацца на ўсе афіцыйныя мовы Сусветных дзён моладзі. Усе маладыя людзі, якія па ўсім свеце рыхтуюцца да прыезду ў Кракаў, змогуць імі карыстацца і распаўсюджваць іх у сваіх асяроддзях. "Мы будзем запрашаць самых вядомых рэкалекцыяністаў не толькі з Польшчы, але і з усяго свету", – растлумачыў падчас пасяджэння 370-й пленарнай сесіі КЕП у Варшаве біскуп Дамін Мускус, які кіруе працамі арганізацыйнага камітэту Сусветных дзён моладзі "Кракаў-2016". Ён дадаў, што дакладная праграма і прозвішчы рэкалекцыяністаў будуць абвешчаны ў хуткім часе.*

*credo-ua.org; catholic.by; ekai.pl*

***Ангеліна Пакачайла***

● працяг са с. 1

# Хэлоўін: пад маскай жартоўнага шоу

## СВЯТА З ЯЗЫЧНІЦКІМІ КАРАНЯМІ

Хэлоўін – адно з самых экзатычных і незвычайных свят, якое мае карані ў традыцыях старажытных кельтаў Ірландыі і Шатландыі. Яшчэ ў дахрысціянскую эпоху кельцкія плямёны адзначалі з 31 кастрычніка на 1 лістапада новы год або заканчэнне збору ўраджая і наступленне зімы. Канец гадавога цыклу земляробства асацыяваўся з канцом зямнога жыцця. У гэты дзень кельты праслаўлялі язычніцкага бога Самайна (па іншых версіях – Сауіна, Самхаіна), якога шанавалі як бога смерці. Яму прыносілі праз спаленне на велізарным вогнішчы ахвяры ў выглядзе пладоў ураджаю, жывёл і нават людзей. Лічылася, што калі лепш задобрыць гэтага бога, ён дазволіць душам памерлых на некаторы час атрымаць вызваленне з пекла і наведаць дамы іх блізкіх.

Свята часткова насіла і забаўляльны характар. Моладзь апранала маскі мерцвякоў і хадзіла ад хаты да хаты з лампадамі. Іх у той час выраблялі з рэпы: гародніну апусташалі знутры, а ў сценках выразалі адтуліны так, каб звонку яны нагадвалі твар. Маладыя людзі стукаліся ў дзверы і весялілі вясковых жыхароў у абмен на пачастунак або манеткі.

У VII стагоддзі Рыма-каталіцкі Касцёл абвясціў 1 лістапада Днём усіх святых. Народныя традыцыі паступова перапляліся з "афіцыйным" святам, і такім чынам з'явіўся Хэлоўін, што значыць "All Hallows' Eve" або "Напярэдадні Дня ўсіх святых".

## ХЭЛОЎІН У БЕЛАРУСІ

З масавай іміграцыяй з Ірландыі і Шатландыі ў XVIII–XIX стагоддзях рытуалы і традыцыі Хэлоўіна апынуліся ў ЗША. Там свята "амерыканізавалася" і распаўсюдзілася па ўсім свеце. Сёння Хэлоўін папулярны ў Амерыцы, Еўропе, некаторых азіяцкіх краінах.

У Беларусі Хэлоўін пачалі святкаваць аднosна нядаўна. Праваслаўныя і каталіцкія традыцыі не давалі язычніцкім вераванням распаўсюдзіцца на тэрыторыі нашай краіны. Але з-за глабалізацыі свету заходняя культура закранула і беларусаў, прынёсшы "цёмныя" сілы і ў нашы гарады.

Сёння ў шматлікіх рэгіёнах Беларусі, у тым ліку і ў Гродне, у ноч з 31 кастрычніка на 1 лістапада прапануецца разнастайная забаўляльная праграма. Начныя клубы, рэстараны, кафэ, цырульні і гандлёвыя цэнтры ствараюць неверагодныя відовішчы. Каб прыцягнуць увагу людзей, мерапрыемствы часта робяць бясплатнымі. І з кожным годам гэтае свята становіцца ўсё больш папулярным.

## СУЧАСНЫЯ МАСКАРАДЫ НЯЧЫСТЫХ СІЛ

Цяпер Хэлоўін даволі спрытна хаваецца пад маскай прывабнага шоу. Містыка, звышнатуральны свет – усё гэта з даўніх часоў прыцягвала людзей. Жартоўнае адценне свята змінае цвярозаму ўспрыманню маскарады.

На Хэлоўіне прынята гадаць, варажыць, чараваць. Вось чаму гэтае свята ўлюбёнае для тых, хто займаецца магіяй і захапляецца сатанізмам. Неад'емныя элементы – шкілеты і чэрапы. Асноўнымі тэмамі становяцца смерць, зло, акультызм.

Найбольш папулярны атрыбут Хэлоўіна – ліхтар з гарбуза. Традыцыя пайшла ад кельцкага звычаю ствараць лампады для аховы дамоў ад злых духаў, якія ў ноч Хэлоўіна карыстаюцца поўнай свабодай. З гарбуза выразаўся твар са злавеснай усмешкай, а ўнутр ставілася свечка.

Для святкавання Хэлоўіна людзі апранаюцца ў касцюмы нечысці, нейкіх звышнатуральных персанажаў. Навошта? Большасць з іх намагаецца атрымаць вострыя адчуванні, хтосьці нацэлены на эфектныя фотаздымкі. Але варта своечасова задумацца: якую цану за гэта давядзецца плаціць?

## АДНОСІНЫ ХРЫСЦІЯН ДА СВЯТА

Хрысціяне востра крытыкуюць святкаванне Хэлоўіна, лічачы, што яго традыцыі ўзыходзяць да некаторых напрамкаў акультызму. І хоць за межамі краін, дзе жывуць нашчадкі кельтаў, свята носіць хутчэй камерцыйны характар, чым культурны або рытуальны, гэта не можа не адбіцца на духоўным жыцці ўдзельнікаў карнавалу.

Хэлоўін прапаведуе паталагічную агрэсію і сімвалізуе ўнутраную пустэчу чалавека. Ён звязаны са шматлікімі павер'ямі і забабонамі. Наведванне падобных мерапрыемстваў, нашэнне маскарадных касцюмаў чарцей, ведзьмаў і нябожчыкаў з'яўляецца для хрысціяніна па меншай меры непрыстойным. Жартоўны, на першы погляд, рытуалы, звязаныя з гэтым днём, прывучаюць людзей да таго, што злу трэба аддаваць нейкую даніну, нават супрацоўнічаць з ім замест таго, каб рашуча змагацца.

За модай на містычную атрыбутыку і наіўнай цікавасцю да звышнатуральнага свету тоіцца вялікая небяспечнасць. Духавенства неаднаразова папярэджвае, што святкаванне Хэлоўіна – гэта д'ябальскае набажэнства, добраахвотнае прысвячэнне сябе і сваёй душы сатане. У Святым Пісанні сказана: "Ніхто не можа служыць двум гаспадарам: бо альбо аднаго будзе ненавідзець, а другога любіць; альбо аднаго пачне трымацца, а другім будзе пагарджаць. Не можаце служыць Богу і мамоне" (Мц 6, 24).

## АСЦЯРОЖНА! НЕБЯСПЕЧНА!

Вельмі страшна, што нячысты прадзяжае нястомна шукаць лазейкі, каб укараніць свята ў свядомасці людзей, прымусіць іх і далей пакланяцца яму. Толькі ўявіце: Хэлоўін прапагандуецца для дзяцей як магчымасць стаць больш здаровымі эмацыйна (прапрацаваць свае страхі ў гульні). З'яўляюцца крамы, дзе прадаюць касцюмы для Хэлоўіна. Свята ўваходзіць у расклад гандлёвых цэнтраў і начных клубаў. Нават калі 31 кастрычніка прыпадае на будні дзень, забаўляльныя ўстановы расцягваюць святкаванне на цэлы тыдзень, каб кожны жадаючы змог прыняць у ім удзел.

**А ТЫМ ЧАСАМ Д'ЯБАЛ ЗАДАВОЛЕНА ПАЖЫНАЕ ПЛЁН. У МІНУЛЫМ ГОДЗЕ Ў НОЧ ХЭЛОЎІНА З-ЗА АТРУЧВАННЯ СПАЙСАМІ Ў РЭАНІМАЦЫІ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ЦЭНТРА ПА ЛЯЧЭННІ ВОСТРЫХ АТРУЧВАННЯЎ МІНСКАЙ БАЛЬНІЦЫ ХУТКАЙ МЕДЫЦЫНСКАЙ ДАПАМОГІ АПЫНУЛІСЯ АДРАЗУ 15 ЧАЛАВЕК ВА ЎЗРОСЦЕ АД 17 ДА 25 ГАДОЎ. НА ШЧАСЦЕ, БЕЗ СМЯРОТНЫХ ЗЫХОДАЎ.**

**ПАМЯТАЙЦЕ, З НЯЧЫСТЫМ ЖАРТЫ КАРОТКІЯ.**

***Ангеліна Пакачайла***



# Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч:



Сінод праходзіць у духу ўзаемнай павагі і любові. Першы тыдзень працы паказаў, што ён на самой справе не з'яўляецца парламентам ці рынгам, дзе прагрэсісты і традыцыяналісты, як часам СМІ называюць Айцоў Сінода і што не адпавядае рэчаіснасці, стараюцца пасадзіць суперніка ў накаўт. Гэты этап прац паказаў пачуццё калегіяльнай адказнасці біскупаў за лёс сям'і. Дыскусіі як у сінадальнай зале, так і ў малых лінгвістычных групах носяць канструктыўны характар. Ёсць розніцы ў падыходзе і меркаваннях, але мэта адна – вывесці сям'ю з крызісу.

У выступленнях гучаў заклік звярнуць сур'ёзную ўвагу на неабходнасць грунтоўнай духоўнай фармацыі моладзі, для чаго неабходна выкарыстоўваць як старыя, пацверджаныя часам метады, так і новыя, каб захаваць сям'ю як фундамент грамадства. У часы ганенняў на Касцёл сям'я захавала грамадства, сёння ж грамадства павінна дапамагчы захаваць сям'ю. Для гэтага – адзначалі ўдзельнікі Сінода – неабходна захаваць традыцыйную дактрыну аб сям'і. Таксама ўвага звярталася на тое, што сям'я павін-

# Пакліканне і місія сям'і ў Касцёле і сучасным свеце



Дыскусіі на Сінодзе грунтуюцца на глыбокім разуменні вучэння Езуса, Старога і Новага Запаветаў



"Сям'я нараджае патрэбу сувязі вернасці, шчырасці, даверу, супрацоўніцтва, пашаны" (папа Францішак)

● працяг са с. 1

### "Сінод – гэта выраз жыцця Касцёла"

5 кастрычніка ў Ватыкане прайшла першая агульная кангрэгацыя Сінода Біскупаў на тэму сям'і. Адкрываючы яе, папа Францішак адзначыў, што Сінод не з'яўляецца кангрэсам, парламентам ці сенатам; гэта выражэнне жыцця Касцёла, які крочыць побач, каб вачыма веры і з сэрцам Бога адкрываць рэчаіснасць і ў духу калегіяльнасці перад вачыма мець дабро Касцёла і сям'і паводле прынцыпу, што найвышэйшае права – гэта збаўленне душ.

Затым Генеральны рэлятар Сінода кардынал Петэр Эрдзё ў сваім выступленні прадставіў выклікі сучаснай сям'і, з якіх найбольш небяспечнымі з'яўляюцца змяншэнне колькасці нараджальнасці, аборты, стэрылізацыя, індывідуалізм і аддзяленне ў спажывецкім грамадстве сексуальнасці ад пракрэацыі патомства. Нагадваючы пра пакліканне сям'і, іерарх казаў аб яе святасці і непарушнасці. Прадстаўляючы місію сям'і, кардынал звярнуў увагу на неабходнасць фармацыі сужэнцаў і святароў.

Таксама была звернута ўвага на неабходнасць душпастарскага падыходу да разведзеных і тых, хто ўступіў у новыя сужэнскія саюзы з захаваннем пры гэтым прынцыпу непарушнасці сям'і. Трэба, як адзначыў прамоўца, быць міласэрным да іх, але міласэрнасць мае патрэбу ў навяртанні, без чаго такія людзі не могуць прымаць святую Камунію. Кардынал гаварыў і аб патрэбе душпастарскай апекі гомасексуалістаў, не дапускаючы пры гэтым ніякай аналогіі паміж іх саюзамі і сям'ёй.

У апошняй частцы свайго ўводнага даклада кардынал падкрэсліў важнасць практыкі ўсынаўлення дзяцей, што можа быць "асаблівай формай сямейнага апостальства". Іерарх заклікаў Касцёл да навяртання, каб стаў "больш жывым, асабовым, супольнасным" і сведчыў аб "самай вялікай міласэрнасці" Бога.

### Гендэрызм і фемінізм сярод тэм, узнятых у "малых групах"

Гаворка ішла пра цяжкасці культурнага характару, у тым ліку фемінізм, які часта прэсінгуе сям'ю, сцвярджаючы, што сужэнства з'яўляецца формай ціску на жанчын, што мацярынства – гэта адна з форм насілля ў адносінах да жанчын, а выхаванне дзяцей пазбаўляе жанчын магчымасці рэалізаваць свае амбіцыі.

Таксама была закранута праблема гендэрызму. Удзельнікі адзначылі, што гэтая ідэалогія імкнецца знішчыць сужэнства і сям'ю шляхам садзейнічання ліквідацыі гендарных адрозненняў. Было адзначана, што гендарная ідэалогія ўсё больш адлюстравана ў навучальных праграмах і заканадаўстве. Усе ўдзельнікі выказалі перакананасць у неабходнасці выразнага сігналу з боку Сінода аб пагрозе гендэрызму для сям'і.

У ходзе дыскусій часта гучала меркаванне, што нягледзячы на шматлікія цяжкасці, Касцёл павінен абвяшчаць натуральнае сужэнства паміж мужчынам і жанчынай, якое не залежыць ад нацыянальных або нават рэлігійных абумоўленасцей і адносіцца да кожнага чалавека. Пра гэта, як было адзначана, гаворыцца ў Старым і Новым Запаветах, і гэта з'яўляецца фундаментальнай культурнай спадчынай усяго чалавецтва.



Беларусь на Сінодзе прадстаўляе арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч

### Сінод падтрымаў увядзенне Папам новых норм "сужэнскага працэсу"

Удзельнікі Сінода Біскупаў на тэму сям'і падтрымалі ўвядзенне папам Францішкам новых норм, пакліканых паскарэнню паспрыяць прызнання несапраўднасці сужэнства. Адпаведныя дакументы Святога Айца былі апублікаваны два месяцы таму і ўвойдуць у сілу 8 снежня, з пачаткам Юбілейнага Года Міласэрнасці.

Адно з галоўных новаўвядзенняў тычыцца надання мясцовым біскупам паўнаты судовай улады, у тым ліку ў пытаннях аб прызнанні несапраўднасці сужэнства. У адпаведнасці з новымі законамі, кожны біскуп мае магчымасць правядзення працэсу ў кароткі тэрмін, калі несапраўднасць сужэнства пацвярджаецца відавочнымі фактамі. Такім чынам, папа Францішак жадае больш блізкасці касцёльных структур да вернікаў.

### Давід – самы малодшы ўдзельнік Сінода

Пасля першых агульных сходаў Сінода Біскупаў на тэму сям'і найбольш папулярным яго ўдзельнікам з'яўляецца італьянец Давід Палоні. У залу Сінода ён прыбывае разам са сваімі бацькамі Масімам і Патрыцыяй. Для чатырохмесячнага немаўляці Давід адзначаецца небывалым спакоем. У Давіда адзінаццаць братоў і сясцёр, старэйшаму з якіх 19 гадоў. Усе яны жывуць у Галандыі. Яго бацькі ўжо на працягу адзінаццаці гадоў з'яўляюцца місіянерамі Неакатэхуменату. На Сінодзе гэта адна з двух італьянскіх сем'яў, якія ўдзельнічаюць у якасці аўдытараў.

**Сінод, падчас якога вядуцца разважанні і дыскусіі пра пакліканне і місію сям'і ў Касцёле і ў грамадстве, каб зрабіць дбайны духоўны і душпастарскі аналіз і вызначыць найбольш адпаведныя шляхі для дапамогі Касцёла сужэнствам, завершыцца 25 кастрычніка ўрачыстай святой Імшой у базіліцы св. Пятра.**

**Падрыхтавала Кінга Красіцкая**
*паводле catholic.by*

# "Першы тыдзень працы Сінода паказаў пачуццё калегіяльнай адказнасці біскупаў за лёс сям'і"

на стаць мостам паміж рознымі канфесіямі і рэлігіямі.

Адзначалася, што неабходна пастарскае рашэнне для сем'яў, якія знаходзяцца ў цяжкай сітуацыі і не могуць прымаць удзелу ў сакраментальным жыцці. Яны члены Касцёла і маюць права на адэкватную пастарскую апеку.

Таксама заўважалася, што, гаворачы аб праблемах сям'і, неабходна шукаць і іх прычыны, адна з якіх – атака злога духа праз секулярызацыю свету. Таму сем'і павінны быць моцнымі сваёй верай. Гучала думка, што старыя людзі – гэта багацце сям'і. Вельмі важнымі з'яўляюцца адносіны паміж дзядамі і ўнукамі, бо ў наш час больш звяртаецца ўвагі на прамінаючыя рэчы, чым на духоўныя. У іх адносінах усё часцей дамінуе дух сентыменталізму, а не дух адказнасці за іх фармацыю.

Таксама гаварылася аб негатыўных тэндэнцыях ў дачыненні да сям'і. Сёння вельмі шмат маладых людзей не клапоцяцца пра сакрамант сужэнства і жывуць без яго. Так адбываецца таму, што яны не разумеюць каштоўнасці гэтага сакраманту. Таму патрэбна адэкватнае іх выхаванне. Таксама сёння вельмі выразна назіраецца тэндэнцыя выключэння Бога з жыцця чалавека, што моцна ўплывае на сям'ю. Такі ж негатыўны ўплыў мае імкненне да абсалютнай свабоды і ідалатрыя сексу. Лекамі можа быць Божае слова, дактрына Касцёла і аднаўленне місійнай працы сярод сем'яў.

Я буду сачыць вельмі ўважліва за ўсімі тэмамі, бо яны важныя і актуальныя і ад вырашэння прадстаўленых у іх праблем будзе залежаць будучыня сям'і. Аднак асаблівую ўвагу ўдзельнікаў Сінода хачу звярнуць на праблему хрысціянскага выхавання маладога пакалення і падрыхтоўку яго да сямейнага жыцця.

## З КАТАЛІЦКАГА ДРУКУ

wiara.pl

### Кастрычніцкі місійны Ружанец онлайн!

***Кастрычнік – месяц ружанцовай малітвы. Ужо другі раз Салезіянскі місійны валантарыят "Маладыя свету" прагне ў гэты час заахвоціць да штодзённай супольнай малітвы ў інтэнцыі місій.***

*Падрыхтаваныя місійныя разважанні даступны на інтэрнэт-старонцы* **http://swm.pl/rozaniec.** *Разважаючы Радасныя таямніцы, удзельнікі моляцца ў інтэнцыі дзяцей вуліцы ў краінах закранутых узброенымі канфліктамі. Адгаворваючы Балесныя таямніцы, просяць аб сталым доступе да вады для жыхароў тэрыторый, дзе пануе засуха. Праз Хвалебныя таямніцы аддаюць Марыі праблему адукацыі ўбогіх дзяцей ва ўсім свеце, а ў Таямніцах святла даручаюць Богу місіянераў і свецкіх валанцёраў, якія працуюць у місійных краінах.*

Catholic.by
Рыма-Каталіцкі Касцёл у Беларусі

### У Філадэльфіі завяршыўся "Кангрэс сям'і"

***У Кракаве падпісалі ліст на ажыццяўленне праекта "Крытычнага выдання літаратурных твораў Караля Вайтылы – Яна Паўла II".***

*"У існуючых выданнях ёсць некаторыя прабелы, таму што маюцца фрагменты тэкстаў, якія яшчэ не былі апублікаваны, – кажа каардынатар праекта доктар Ганна Каронь-Астроўска. – Мы хочам да іх дайсці і адкрыць свету. Існуюць таксама варыянты тэкстаў, якія пісаў Папа, будучы маладым чалавекам".*

*Вынікам працы навукоўцаў стане трохтомнае выданне ўсіх літаратурных твораў Папы-паляка, некаторыя з якіх да гэтага часу не былі апублікаваны цалкам, без скарачэнняў. Выданне прымеркавана да 100-годдзя з дня нараджэння Караля Вайтылы.*

eKai.pl

### Папа адказаў на ліст хворага васьмігадовага хлопчыка

***Ён скіраваны як да хворага Даміяна, так і да іншых дзяцей, якія разам з ім вырушылі з Місіяй супакою ў марыйны санктуарый у Лурд.***

*"Ваша задача – малітва і сведчанне. Пакажыце дарослым, што дзеці здольны маліцца, любіць Езуса – Сябра, які ніколі не здраджвае, здольны дапамагаць адзін аднаму і мець надзею на лепшую будучыню", – напісаў Папа.*

*Словы Святога Айца з'яўляюцца адказам на ліст, які раней выслаў малы Даміян. Хлопец, які жыве ў Рыме, запрашаў у ім Францішка далучыцца да пілігрымкі дзяцей у якасці пасла супакою і спадарожнічаць ім падчас побыту ў Лурдзе.*

**Кінга Красіцкая**

## Гродзенская моладзь супольна памалілася Ружанцам

*"Ружанцовая малітва – гэта малітва чалавека за чалавека; гэта малітва людской салідарнасці, супольная малітва адкупленых, у якой адлюстраваны дух і інтэнцыя Той, якая займае першае месца сярод адкупленых – Марыі, Маці і Вобразу Касцёла" (св. Ян Павел II).*



9 кастрычніка моладзь з парафіі імя св. Францішка Ксаверыя сабралася на супольны Ружанец у гродзенскай катэдры. Разам са сваім духоўным настаўнікам ксяндзом Юрыем Ясевічам маладыя вернікі разважалі Балесныя таямніцы, маліліся аб супакоі ў Беларусі і ў свеце, а таксама ў асабістых інтэнцыях.

## У Дзятлаве адбылося адкрыццё араторыя

*Араторый імя бласлаўлёных мучанікаў з Познані ў Дзятлаве адкрыў свае дзверы для дзяцей і моладзі 3 кастрычніка.*



Першым пунктам праграмы была Эўхарыстыя. У гаміліі кс. Здзіслаў Пікула SDB засяродзіў увагу прысутных на ролі духоўнага выхавання ў жыцці кожнага чалавека, магчымасці кожнага юнака або дзяўчыны знайсці час, каб ахвяраваць яго Богу, дадаўшы, што адным з такіх месцаў з'яўляецца араторый. Гамілію святар завяршыў словамі св. Яна Боско: "Нагамі хадзіце па зямлі, а сэрцам жывіце ў небе".

Пасля Імшы прысутныя былі запрошаны на працяг святочнага мерапрыемства, якое праходзіла ў араторыі. Дзецям і моладзі былі прапанаваны цікавыя і разнастайныя па змесце гульні, шмат танцаў.

## Аднаўленне манаскіх абяцанняў адбылося ў лідскай парафіі

*У вігілію ўспаміну св. Францішка з Асізі ў парафіі Святой Сям'і ў Лідзе адбылася ўрачыстая святая Імша, падчас якой адна з членаў III Ордэна свецкіх францішканцаў аднавіла манаскія абяцанні, а тры чалавекі ўступілі на чарговую ступень фармацыі.*



Святую Імшу ўзначаліў пробашч парафіі кс. Юзаф Ганьчыц, гамілію прамовіў а. Віктар Барысевіч OFMCap.

Пасля Імшы адбылося набажэнства "Транзітус", у якім узгадваецца падзея пераходу св. Францішка з зямнога жыцця ў нябесную айчыну. Набажэнства падрыхтавала мясцовая супольнасць свецкіх францішканцаў разам з с. Гэленай.

## У смаргонскім араторыі распачаўся новы навучальны год

*"Прыгоды з ксяндзом Боско" пачаліся святой Імшой, пасля дзеці разам з бацькамі былі запрошаны ў араторый для далейшага працягу вандроўкі.*



Святы Ян Боско перад тым, як знайсці сталы прытулак для свайго араторыя, быў вымушаны з хлопцамі вандраваць з аднаго месца ў іншае. Змяніць некалькі пляцовак у гарадскім парку і на тэрыторыі касцёла трэба было таксама дзецям разам з аніматарамі і памочнікамі. Каманды выконвалі заданні, пазначаныя на "маршрутным лісце прыгод".

Пасля да ўдзельнікаў мерапрыемства звярнуўся кс. Павел Шчарбіцкі SDB, які распавёў гісторыю пра маленькага хлопчыка, які першым знайшоў кветку шчасця. І толькі даверыўшыся свайму тату, ён здолеў сарваць кветку, якая расла над абрывам. Як пажаданне для ўсіх прысутных, прагучаў заклік і ў адносінах з нябесным Татам мець такі давер, як у гэтай гісторыі.

## У Гродне адсвяткавалі ўспамін св. Францішка

*"Транзітус", сакрамант канфірмацыі, а таксама блаславенне хатніх жывёл – тры падзеі, якія мелі месца ў францішканскай парафіі ў Гродне ў вігілію і дзень успаміну аднаго з самых любімых святых, апекуна звяроў і птушак – Францішка з Асізі.*



3 кастрычніка раніцай браты і сёстры тэрцыярыі з Гродна сабраліся ў касцёле Маці Божай Анёльскай на традыцыйны дзень засяроджання пад духоўнай апекай а. Антонія Пажэцкага, гвардыяна гродзенскай супольнасці францішканцаў. Разважанне над запаветам святога падчас канферэнцыі, адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, святая Імша з прыняццем новых кандыдатаў у Францішканскі ордэн свецкіх сталі добрай нагодай, каб духоўна падрыхтавацца да ўрачыстасці св. Францішка з Асізі. Пасля вячэрняй святой Імшы адбылося асаблівае францішканскае набажэнства – "Транзітус" – успамін пераходу святога Францішка з зямнога жыцця да хвалы нябёс.

На наступны дзень 53 вернікі парафіі Маці Божай Анёльскай у Гродне атрымалі сакрамант канфірмацыі з рук біскупа Віцебскага Алега Буткевіча падчас урачыстай св. Імшы. Пасля набажэнства іерарх памаліўся разам з прыхільнікамі экалогіі і асвяціў іх хатніх жывёл.

## У ВДС у Гродне прайшоў дзень духоўных практыкаванняў

*Для будучых святароў час духоўных практыкаванняў стаў чарговай прыступкай да ўнутраных змен, духоўнага развіцця і ўзрастання ў любові да Бога і бліжняга.*



Духоўным кіраўніком чарговага дня засяроджання для навучэнцаў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі стаў кс. Віталій Дабраловіч, дырэктар дабрачыннага каталіцкага таварыства "Caritas". Падчас канферэнцый святар спрабаваў скіраваць думкі і ўвагу семінарыстаў на тых, хто знаходзіцца ў найбольшай патрэбе, і задумацца, як можна ім дапамагчы.

Таксама святар падкрэсліў, што любоў да бліжняга, якая грунтуецца на любові да Бога, з'яўляецца абавязкам і неад'емнай часткай жыцця кожнага верніка і ўсёй касцёльнай супольнасці.

## ІНФАРМАЦЫЯ

### Араторый у Дзятлаве запрашае на свой першы Дзень нараджэння

**Прыняць удзел у святкаванні, якое адбудзецца 24 кастрычніка, араторый імя бласлаўлёных мучанікаў з Познані ў Дзятлаве запрашае ўсю салезіянскую сям'ю ў Беларусі і ўсіх прыхільнікаў харызмы св. Яна Боско.**

**Праграма святкавання:**

10.30 – прыезд удзельнікаў (будынак араторыя: Дзятлава, вул. Леніна, 13);
10.45 – урачыстая працэсія ад араторыя ў касцёл;
11.00 – урачыстая святая Імша (узначаліць дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB);
13.00 – святочная праграма ў араторыі. На завяршэнне біскуп Аляксандр Яшэўскі звернецца са словам да ўдзельнікаў урачыстасці і ўдзеліць пастырскае блаславенне;
15.15 – салодкі стол для ўсіх.

### Духоўныя сустрэчы для юнакоў пройдуць у Шчучыне

**23–25 кастрычніка ў кляштары айцоў піяраў у Шчучыне адбудуцца дні духоўных сустрэч для юнакоў. Запрашаюцца юнакі ва ўзросце ад 15 гадоў і студэнты, якія хочуць прысвяціць час для сустрэчы з Езусам.**

Тэма малітоўнай сустрэчы будзе звязана з Божым словам. Удзельнікі змогуць знайсці адказы на пытанні: як чытаць Божае слова, як прымаць і па-сапраўднаму разумець яго, як жыць гэтым Словам, а таксама на іншыя падобныя пытанні.

У межах сустрэчы будзе магчымасць размовы са святаром, а таксама нагода паназіраць за жыццём айцоў піяраў як выхавацеляў дзяцей і моладзі.

***Пра ўдзел трэба паведаміць да 20 кастрычніка.***
***Сустрэча адбудзецца па адрасе: вул. Савецкая, 1, г. Шчучын, Гродзенская вобл.***
***Кантактны тэлефон: (+375-29) 789-06-27 (МТС).***

### 24 кастрычніка ў Росі адбудуцца рэкалекцыі для сужэнстваў, якія не маюць дзяцей

**Пачатак рэкалекцый – 10.00, заканчэнне – 20.30** *(з сабой мець бутэрброды).*

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### Чым для Вас з'яўляецца сям'я?




*Гэта не першае апытанне на тэму сям'і на старонках нашай газеты. Усе мы добра ведаем, што ў гэтыя дні адбываецца Сінод Біскупаў на тэму сям'і ў Рыме, таму чарговае "сямейнае" апытанне мае асаблівае значэнне. Найбольш рэспандэнтаў выказаліся за тое, што сям'я – гэта месца, дзе яны вучацца ўзаемнай любові. Любоў паміж мужчынам і жанчынай, якія заключаюць сужэнскі заюз і становяцца бацькамі, з'яўляецца фундаментам сям'і. На другім месцы аказаўся адказ, што сям'я становіцца хатнім Касцёлам.*

***Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



**Кс. Павел Салабуда**

*На тэму сям'і мы шмат яшчэ пачуем з вуснаў Айцоў Сінода, Папы, а таксама арцыбіскупа Тадэвуша, які прымае ўдзел у пасяджэннях Сінода. Вельмі добра складваецца, што ў нас ёсць таксама зваротная інфармацыя па гэтай тэме ад нашых чытачоў. Сям'я з'яўляецца месцам любові, якой Хрыстос адорвае людзей, што збіраюцца ажаніцца. Сям'я вучыць любові сапраўднай, пра якую ў сваім гімне кажа святы Павел. Выдатна, што сям'я становіцца хатнім Касцёлам, дзе далей перадаецца вера, хрысціянскія каштоўнасці і традыцыі нашых дзядоў і прадзедаў. Давайце маліцца за нашыя сем'і, каб яны былі моцныя Богам, каб у сучасным свеце яны станавіліся поўным любові хатнім Касцёлам.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**20 кастрычніка 1982 г. –** кс. Часлаў Янкоўскі, *проб. Мінойты;*
**22 кастрычніка 1961 г. –** кс. Ян Жыткевіч, *проб. Квасоўка;*
**25 кастрычніка 1993 г. –** кс. Ян Адамовіч, *проб. Цудзенішкі, Мінск;*
**28 кастрычніка 1993 г. –** кс. Валянцін Кубік, *душп. Індура;*
**30 кастрычніка 1936 г. –** кс. Юліян Юркевіч, *проб. Радунь;*
**1 лістапада 1972 г. –** кс. Мар'ян Чабаноўскі SchP, *проб. Ліда-Слабада.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***

# РЫХТУЕМСЯ ДА СУСВЕТНЫХ ДЗЁН МОЛАДЗІ Ў КРАКАВЕ!

**У межах падрыхтоўкі да СДМ моладзь з душпастарства "OPEN" сабралася на ўводную катэхезу. Маладыя людзі сустрэліся на святой Імшы для супольнай малітвы, а пасля прынялі ўдзел у прэзентацыі сусветнага з'езда. "Мэтай нашай сустрэчы з'яўляецца духоўная і арганізацыйная падрыхтоўка да моладзевай сустрэчы ў Кракаве", – заўважыў на пачатку сходу каардынатар СДМ у Беларусі ксёндз Антоній Грэмза.**

**Прэзентацыя складалася з дзвюх частак: выступлення душпастара і сведчанняў маладых людзей, якія прымалі ўдзел у СДМ. Многія адкрылі для сябе шмат новага і цікавага, некаторыя пачулі пра моладзевы з'езд упершыню.**



## Дык што такое Сусветныя дні моладзі і з якой мэтай яны праводзяцца?

### СДМ

Міжнародныя сустрэчы моладзі з усяго свету, якія разам са сваімі катэхетамі, святарамі, пастарамі, біскупамі і Папам Рымскім збіраюцца ў адным месцы, каб вызнаць веру ў Езуса Хрыста.

### ГІСТОРЫЯ

Заснавальнікам і першым гаспадаром СДМ быў святы Ян Павел II, які сабраў маладых людзей у Рыме ў 1984 годзе з нагоды Надзвычайнага Юбілею Адкуплення. Наступная сустрэча адбылася праз год у тым жа месяцы.

Першыя дзве сустрэчы далі імпульс Папе для зацвярджэння ініцыятывы, якая трывае па сённяшні дзень. Напярэдадні Божага Нараджэння ў 1985 годзе ў прысутнасці Кардыналаў і супрацоўнікаў Рымскай Курыі Ян Павел II выказаў жаданне, каб Дні моладзі адбываліся ў кожную Вербную нядзелю ў дыяцэзіях і раз на 2-3 гады ў якасці міжнародных сустрэч.

### ХРАНАЛОГІЯ

СДМ праходзілі ў 1987 годзе (Буэнас-Айрэс, Аргентына), 1989 (Санцьяга-дэ-Кампастэла, Іспанія), 1991 (Чанстахова, Польшча), 1993 (Дэнвер, ЗША), 1995 (Маніла, Філіпіны), 1997 (Парыж, Францыя), 2000 (Рым, Італія), 2002 (Таронта, Канада), 2005 (Кёльн, Германія), 2008 (Сіднэй, Аўстралія), 2011 (Мадрыд, Іспанія), 2013 (Рыа-дэ-Жанейра, Бразілія). У 2016 годзе СДМ адбудуцца ў Кракаве з 25 па 31 ліпеня.

### МЭТА

Досвед вялікай супольнасці паўсюднага Касцёла, слуханне Божага слова, ажыццяўленне сакраманту пакаяння і Эўхарысціі, радаснае абвяшчэнне Езуса Хрыста як Госпада і Збаўцы.

### СТРУКТУРА

СДМ складаюцца з дзвюх падзей – "Дні ў дыяцэзіях" (так званы "Місійны тыдзень") і "Цэнтральныя падзеі". Падчас "Дзён у дыяцэзіях" маладыя людзі знаходзяцца на тэрыторыі ўсёй краіны, якая з'яўляецца гаспадаром СДМ. Гэта час інтэграцыі, узаемнага спазнання, знаёмства з культурай і рэгіёнам. На дадзеным этапе праводзяцца разнастайныя экскурсіі, сумесныя забавы. Арганізатарамі ладзяцца шматлікія фестывалі, праекты і справы.

Падчас "Цэнтральных падзей" адбываецца тыднёвы побыт моладзі на тэрыторыі галоўнага арганізацыйнага горада. У панядзелак моладзь прыязджае ў дыяцэзію, а ў аўторак прымае ўдзел у цырымоніі адкрыцця. 3 серады па пятніцу адбываецца катэхізацыя маладых людзей. У суботу – малітоўнае чуванне і вячэрняя сустрэча з Папам. У нядзелю на заканчэнне СДМ Святы Айцец адпраўляе святую Імшу.

### ТЭМА

СДМ патрабуюць добрай падрыхтоўкі з пункту гледжання зместу, над якім маладыя людзі разважаюць, збіраючыся ў моўных групах. Тэматыку СДМ вызначае Папа Рымскі, які скіроўвае для моладзі спецыяльнае пасланне – зварот. Падчас СДМ змест тэмы паглыбляецца на працягу трохдзённых сустрэч, якія называюцца катэхетычным трыдуумам. Тэма надыходзячай сустрэчы ў Кракаве – "Шчаслівыя міласэрныя, бо яны міласэрнасць спазнаюць" (Мц 5, 7).

### СІМВАЛЫ

Сустрэчам спадарожнічаюць два асаблівыя сімвалы, якія моладзі падарыў святы Ян Павел II. Гэтымі знакамі з'яўляюцца Крыж СДМ і абраз Маці Божай "Salus Populi Romani". Сімвалы спадарожнічаюць маладым людзям падчас СДМ. Акрамя таго, адбываецца іх перыгрынацыя па ўсім свеце.

### УДЗЕЛЬНІКІ

СДМ арыентаваны на маладых людзей з усяго свету. Нягледзячы на тое, што з'езд арганізуецца Касцёлам, у моладзевай сустрэчы з Папам можа прыняць удзел любы малады чалавек, незалежна ад веравызнання. Разам з моладдзю ў сустрэчах прымаюць удзел і тыя, хто ёй спадарожнічае: біскупы, святары, манаскія браты і сёстры, семінарысты, а таксама свецкія настаўнікі і прафесары. Як правіла, сустрэчы вельмі шматлюдныя. У СДМ у Філіпінах прынялі ўдзел больш за 4 мільёны чалавек! У Рыа-дэ-Жанейра – больш за 3 мільёны, у Рыме – больш за 2 мільёны.

### ПРАЦЯГЛАСЦЬ

Каля двух тыдняў.

### ПАДРЫХТОЎКА

Пачынаецца з прыняццем рашэння аб удзеле ў СДМ.

### У ТЭМУ



**Як паведамляе ксёндз Антоній Грэмза, 17 кастрычніка ў пабрыгіцкім касцёле былі асвечаны мініяцюры Крыжа і абраза Маці Божай "Salus Populi Romani" – духоўных сімвалаў СДМ. Адбылося іх урачыстае ўручэнне для ўсіх дэлегацый моладзі з кожнай парафіі горада Гродна. У бліжэйшы час мініяцюры духоўных сімвалаў СДМ плануецца ўручыць моладзі з усіх дыяцэзій Беларусі.**

*Падрыхтавала Ангеліна Пакачайла*

**Далучайцеся да моладзі, што рыхтуецца да з'езда ў Кракаве, у сваіх парафіях! Вопыт супольнасці – адзін з найпрыгажэйшых пладоў удзелу ў СДМ.**



ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ

## С. Марыя Вераніка ад Божай Міласэрнасці склала вечныя манаскія абяцанні ў Гудагаі

Манахіня належыць да Кангрэгацыі Сясцёр Кармелітак ад Дзіцятка Езус. Раздзяліць з ёю радасць прыйшлі вернікі гудагайскай парафіі, блізкія і знаёмыя сястры, манахіні беларускіх супольнасцей і сёстры кармэліткі з Польшчы на чале з с. Імэльдай Квяткоўскай, дэлегаткай Генеральнай рады, на рукі якой с. Марыя Вераніка склала вечныя манаскія абяцанні.










## Так ли безобиден фэн-шуй?

*Фэн-шуй часто представляют как тысячелетнюю китайскую практику, нацеленную на поиск гармонии и равновесия на территории и внутри дома, в расположении построек и помещений, мебели и предметов. Но речь отнюдь не идет о какой-то теории градостроительства, архитектуры или дизайна, основанной исключительно на законах экологического строительства и на хорошем вкусе, как нередко фэн-шуй представляют в рекламе. Принимать его за безобидную разновидность дизайна – заблуждение. Фэн-шуй не довольствуется созданием комфорта и благополучия для немногих избранных. Оказывается, для достижения обещанной гармонии (а это ключевое слово движения Нью Эйдж) необходимо, чтобы расположение зданий, пространств, помещений и предметов способствовало уравновешиванию их «позитивной и негативной энергии», причем все должно быть расставлено также в соответствии с энергией людей, согласно принципам традиционной китайской медицины, уходящей корнями в таоизм, тантризм, буддизм и оккультизм. Ничего не должно быть случайным: ни цвет стен, ни выбор благоуханий, ни положение вещей в доме. Образ жизни человека, проживающего в доме, состоит из постоянных ритуалов, если он хочет извлечь пользу из пространства и достичь радости, благополучия и покоя. Фэн-шуй требует самой настоящей веры, веры в возрождающую энергию ци, веры в позитивную и негативную энергию инь и ян (таоизм), веры в магическую силу камней, цветов, ароматов и звуков, в силу пирамиды и связанных с ней ритуалов (называя вещи своими именами, речь идет о волховании). Фэн-шуй включает в себя веру в очищающую силу огня и успокаивающую силу воды; веру в вибрацию чисел; веру в духов, оживотворяющих растения, животных, камни и все неодушевленные предметы (опять же, называя вещи своими именами, это чистой воды шаманство); веру в дух Земли (то есть язычество). И всего этого не достаточно: необходимо верить также в китайский гороскоп. Например, если ты родился под знаком собаки, то в доме должен быть фонтан, если под знаком змеи – то нужно работать в комнате, расположенной на юго-востоке, а вот если ты по гороскопу лошадь, то нужно непременно выкрасить стены в синий цвет.*

*Увлечение христиан фэн-шуй, таким образом, противоречит их вере и их крещению, которое обладает возрождающей силой умершего и воскресшего Христа. О фэн-шуй упоминается также в документе Папского совета по культуре «Иисус Христос – носитель воды живой». Этот вероучительный текст, обнародованный в связи с распространением мировоззрения Нью Эйдж, называет фэн-шуй «разновидностью геомантии», то есть гадания по земле. Согласно тексту, речь идет о «китайском оккультном методе распознавания скрытого присутствия позитивных и негативных потоков в зданиях и других местах на основе познания земных и атмосферных сил».*

***Паводле radiovaticana***

# Каханыя Дзеці!

***Вялікімі крокамі ідзе кастрычнік – ружанцовы месяц. У касцёле або дома сярод сям'і мы молімся на ружанцы. Перабіраючы пацеркі, мы гаворым "Ойча наш" і "Вітай, Марыя". Вы напэўна ведаеце, што ружанцовая малітва мае незвычайную моц: гэта менавіта дзякуючы ёй многія людзі засталіся жывыя, маюць шчасце ў сям'і, ім шанцуе ў працы. Святы Айцец Піо гаварыў, што ружанец – гэта найлепшая зброя супраць д'ябла. Гэты святы штодня адгаворваў вельмі шмат ружанцаў і так стаў незвычайным рыцарам Марыі. Вы таксама можаце дапамагчы Марыі выратаваць свет ад зла і пекла!***

***Да канца кастрычніка засталося толькі два тыдні!***

## КАЛІ ХОЧАШ МАЛІЦЦА...



### Для чаго служыць малітва?

*На свеце ёсць людзі, якія ўсё жыццё прысвячаюць малітве. Яны робяць гэта ў заціšшы кляштара і ў глыбіні свайго сэрца. Ці патрэбна гэта для нечага? Канешне. Гэта так, нібы праводзіць час са сваім сябрам. Ты хочаш яму расказаць пра нейкую важную падзею, якая з табой здарылася. Калі вы расказваеце пра сябе, вы яшчэ больш даведваецеся адзін пра аднаго. Малітва з'яўляецца чымсьці падобным, але значна прыгажэйшым. Калі ты радасны або сумны, Бог цябе слухае. Малітва – гэта ўслухоўванне ў Бога, які да цябе прамаўляе. Гэта не заўсёды лёгка. Але ў нас ёсць усё жыццё, каб гэтаму навучыцца!*

### Да каго маліцца?

*Каб звярнуцца да Бога, ёсць тысячы спосабаў: мой Божа, Ойча, Пане. Ты не павінен забываць пра Езуса, Святога Духа і Найсвяцейшую Маці.*

### Не важна дзе, усе 24 гадзіны

*У гарах, у тваім пакоі або ў палатцы: Бог чуе цябе ўсюды. У сям'і, у школе, пасля абеду, перад тым, як заснуць: Бог прымае цябе ў кожны час.*

### З ног да галавы

*Каб паказаць, што Бог поўнасцю Табой валодае, можаш зрабіць знак крыжа. Каб лепш пачуць тое, што Бог табе гаворыць, можаш заплюшчыць вочы. Можаш стаць на калені, каб паказаць, што перад Яго абліччам ты адчуваеш сябе зусім малым. Калі ты молішся з іншымі асобамі, можаш трымаць іх за рукі. Седзячы або стоячы: ты сам адчуеш, як табе найлепш маліцца.*

### Мае словы, іх словы

*Можаш маліцца штодзённымі словамі: дзякуй, прабач, прашу... або таксама словамі, якія ты прыдумаеш толькі для Бога (паэзія, ліст або спеў). Можаш выкарыстаць Біблію, разважыць псалом або паўтарыць які-небудзь фрагмент, што прамовіў да тваіх думак. Маліся таксама са сваімі сябрамі, братамі, сёстрамі. Няхай кожны выказваецца ў малітве. Гэта так прыгожа, маліцца на некалькі галасоў!*

### Цішыня ці спеў

*Можаш таксама маліцца ў цішыні. Каб зрабіць гэтую сустрэчу яшчэ больш прыгожай, падчас малітвы можаш запаліць свечку, уключыць прыгожую музыку. Малітва не павінна быць абавязкова ціхай. Пан Бог любіць таксама рух і ўмее радавацца ад усяго сэрца.*

# Ад шчырага сэрца

Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Лабкову з нагоды Імянін ад шчырага сэрца жадаем мноства Божых ласкаў на кожны дзень, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і св. Заступніка, шчодрых дароў Святога Духа, а таксама добразычлівых людзей навокал. Няхай добры Бог благаслаўляе Вас і ўзнагароджвае за Вашу дабрыню і вялікае сэрца. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з пар. Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

Паважанай Сястры Ганне з нагоды Дня нараджэння высылаем сардэчныя пажаданні. Няхай міласэрны Бог праз нашыя малітвы ўзнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай, стойкасцю, нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Маці Божая атуліць Вас сваім плашчом і цяплом свайго сэрца, ахіне ласкай і дабрынёй. Няхай Святы Дух асвеціць дарогу, па якой мы разам з Вамі ідзем. Дзякуем Вам за добрае сэрца, зычлівасць, малітву, цярплівасць да нас. Жадаем шчасця і як мага больш радасных хвілін у гэты цудоўны дзень і на працягу ўсяго жыцця.

*Вучні 5 класа і іх бацькі з пар. Унебаўзяцця НПМ у Жалудку*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Ігару Анісімаву з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, радасці, моцнага здароўя, цярплівасці і стойкасці на святарскім шляху. Няхай Божая Маці няспынна Вамі апекуецца, а Святы Дух адорвае сваімі шчодрымі дарамі. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за Божае слова, добрае сэрца і клопат пра нас і касцёл.

*Парафіяне з касц. Беззаганнага Зачацця НПМ у Слоніме*

Дарагому Ксяндзу Ігару Анісімаву з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, моцы, цярплівасці, нястомнай радасці і надзеі на кожны дзень. Няхай кожная Твая хвіліна будзе шчаслівай і блаславёнай, а побач будуць зычлівыя людзі і добрыя сябры. Няхай Марыя Панна і Анёл-ахоўнік няспынна Табой апекуюцца. Няхай над галавой свеціць сонца, а з твару не знікае шчаслівая ўсмешка.

*Мама і сёстры*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Дзмітрыю Несцераву з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным, сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай. Няхай Вас заўсёды акружаюць промні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай Езус валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а св. Заступнік заўсёды знаходзіцца побач. Дзякуем за цудоўнае абвяшчэнне Божага слова і радасную ўсмешку на Вашым твары.

*З малітвай Касцёльны камітэт і парафіяне з Гераненаў*

Паважанаму Ксяндзу Юзафу Багдзевічу з нагоды Дня нараджэння перасылаем шчырыя пажаданні: мноства Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, моцнага здароўя і душэўнага супакою. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і напоўнены Панам. Няхай Маці Божая заўсёды клапоціцца пра Вас і ахінае сваёй любоўю.

*З павагай Касцёльны камітэт з касц. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

Паважанай Спадарыні Ірыне Ашмян з нагоды 80-годдзя складаем букет найлепшых пажаданняў моцнага здароўя яшчэ на доўгія гады, штодзённай радасці, шчасця, душэўнага супакою, аптымізму, а таксама дабрыні і любові ад людзей навокал. Таксама віншуем усіх настаўнікаў з Днём настаўніка. Няхай Пан Бог асвячае кожны дзень Вашага жыцця і дадае сіл для выканання Вашага цудоўнага паклікання.

*III Ордэн св. Францішка і Ружанцовыя колы з пар. Тэалін*

Прагну падзякаваць міласэрнаму Богу, духавенству Гродзенскай дыяцэзіі, а таксама прафесарам і ўрачам анкалагічнага шпіталя ў Лідзе і Гродне за ўданую аперацыю для Алены і ўрачэбную дапамогу падчас інфаркту міякарда для Уладзіміра. Дзякую сябрам, суседзям, сваякам і знаёмым, усім, хто аказаў нам сваю міласэрнасць і дапамогу. Прашу Найсвяцейшую Панну Марыю, а таксама ўсіх Анёлаў-ахоўнікаў аб патрэбных ласках для ўсёй сям'і на далейшыя гады жыцця.

*Алена Санюк*

Паважанаму Ксяндзу Алегу Пятрашку з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў: Божага благаслаўлення і апекі Маці Божай на кожны дзень.

Прыміце нашы віншаванні, наш дарагі Ксёндз,
Бо ўсе мы Вас вельмі шануем.
Гарачыя малітвы мы ўзносім перад алтаром,
Каб Бог адарыў Вас здароўем і доўгім жыццём.
Жадаем таксама радасці і надзеі, а з Вашага твару няхай ніколі не знікае ўсмешка. Аддзяч, Божа, бацькам за сына святара. Мы дзякуем Вам за тое, што Вы з намі.

*Вернікі з в. Еўлашы, пар. Лядск*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш; Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by; http://www.slowo.grodnensis.by;** Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,**
ЛП 02330/39 от 27.03.2014г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 6886; тыраж 6600; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная